ЯНКА СТАНКЕ́ВІЧ.

# БЕЛАРУСКАЯ ПРАВАПІСЬ

## З ПРАКТЫКАВАНЬНЯМІ.



КНІЖКА І.

Друкарня «Віленскага Выдаве́цтва»
Б. Кле́цкіна, Вільня, М.-Сьцяпаноўская, 23.
1921.

# ПЕ́РШАЯ ЧАСЬЦЬ.

**1. Казаньне.** Думка, выказаная словамі, заве́цца **казаньнем** *). Прыкладам: *Стол стаіць. Дзе́ці гуляюць. Артаі аруць.* Усё гэта казаньні, або выказаныя словамі думкі аб стале́, дзяцёх і артаёх.

**2. Слова.** Казаньне раскладаецца на словы, прыкладам, у казаньні „Дзе́ці гуляюць", два словы.

**3. Склад.** Слова дзе́ліцца на часьці або склады. Гэтак у слове *ла-ва*—дзьве́ часьці, або два склады. У слове *ба-ра-на*—тры склады і г. д. У слове можа быць чатыры і бале́й складоў.

Калі ў слове адзін склад, дык яно заве́цца **аднаскладовым** (стол, вол, цэп), калі ў слове два склады—**двускладовым** (на-жы, ца-пы, ва-да), тры склады—**трыскладовым** (га-ла-ва) і **шматскладовым** (баць-каўшчы-на, ня-дзе́-ляш-ні).

Практыкаваньне. Вышішаце спачатку аднаскладовыя словы, потым—двускладовыя і, наапошку,—шматскладовыя. Барана. Карова. Сенажаць. Плот. Адле́га. Сонца. Вуха. Ганна. Шыя. Конь. Хата. Панадворак. Хле́ў. Мяса. Сьмятана. Вока. Вуліца. Яйцо. Заяц. Дзе́нь. Маланка. Вольха. Восень. Вучыцель. Малако. Земляроб. Гаспадар. Камар. Шаве́ц. Дуб. Дзе́д. Галіна. Сад. Гарод. Бор. Ле́с. Салаве́й. Се́на. Трава. Мятліца. Вясна. Школа. Беларусь. Крывіч. Матуля. Брат. Браток. Брацейка. Сьцяна. Столь. Нож. Ложак. Тале́рка. Каваль. Майстра. Чалаве́к. Купе́ц.

*) У граматыцы Б. Тарашке́віча казаньне названа *сказам*.

Сусе́д. Панядзе́лак. Сыбота. Тыдзень. Раньніца. Рэшата. Дзяцюк.

Практыкаваньне. Перапішэце, разьбе́це словы на склады і абазначце лічбаю ў ве́рсе колькі ў кожным слове складоў (вось гэтак: ка-лё-сы). Нага. Рука. Кола. Ножык. Калёсы. Малако. Вада. Куры. Дарога. Голас. Волас. Жыта. Ле́та. Папе́ра. Тата. Мама. Бяроза. Асіна. Саха. Гусак. Міса. Дубок. Шыла. Куля. Рака. Зязюля. Возера. Ліпа. Краска. Гуска. Ножка. Дарожка. Галоўка. Шнуроўка. Перапёлка. Ластаўка. Складанчык. Дрыжыць, як ліст на асіне. Кароўка дала малака. Каня запрэглі ў воз. Ягады растуць у ле́се. Пастыр пасе́ статак. Маці любіць дзяце́й. Дзе́ці слухаюць бацькоў.

**4. Перанос слова.** Калі на пісьме́ слова не зьмяшчаецца ў адным радку, дык часьць яго пераносіцца ў другі радок, але толькі так, каб не разарваць складоў; значыцца склад трэба або ўве́сь пакінуць, або ўве́сь перанясьці (мя - це́ - лі - ца, нянь - ка). Пераносячы, у канцы радка ставіцца знак пераносу (-).

**5. Націск.** У кожным слове адзін склад вымаўляецца галасьне́й за другія—з націскам: х*а*-та*), па-р*а*, п*а*-ра.

Націск, калі трэба, абазначаецца знакам ′ над літараю. Націск бывае на пе́ршым складзе ад канца слова (вад*а*), на другім (х*а*та), на трэцім (л*а*вачка), на чацьве́ртым (Г*о*радзенскі) і інш.—ён векавітага ме́сца ня мае і мы розна павышаем голас у розных словах.

Пры зьме́не слова можа зьмяняцца і націск, прыкл.: к*о*л — кал*а* (але к*о*ла — колы), в*о*ўк — ваўк*і*, Ад*а*м—Адам*ы*, б*а*ба—баб*у*ля.

Практыкаваньне. Перапішэце гэтыя пе́сьні, разьбе́це словы на склады, як для пераносу, і пастаўце націск (Ба-ра-в*а*-я зя-з*ю*-ля).

---

*) Пачынаючы адгэтуль і да канца гэтае страніцы націск абазначаны курсівам.



„Баравая зязюля,
чаму ў бары ня кукуеш,
чаго ў мой сад прылятаеш?“
— Як-жа мне́ ў бары кукаваць,
калі за сасонкамі ня відаць,
за салоўкамі ня чуваць!..
„Маладая дзе́вачка,
чаго ў маткі плакала,
чаго да нас прые́хала?“
— Як-жа мне́ ў мамачкі ня плакаць,
калі за брацейкамі ня відаць,
за сястрыцамі ня чуваць!..

*

У полі дымы дымяць,
там малойчык ваюе,
па ім мамачка бядуе.
„Не бядуй, мамачка, родная мая:
не адзін я ваюю:
Сам Бог нада мною,
шабелька пад палой,
востры ме́ч пад другой!“

6. **Гук.** Склады дзе́ляцца на **гукі**. Прыкладам, у слове б-о-р—тры гукі.

Практыкаваньне. Разлажэце на памяць словы гэтае пе́сьні на склады, а склады на асобныя гукі:

Зьмяцём поле мяцёлачкай,
прыдзём дамоў з вясёлачкай.
Выйдзі, выйдзі, гаспадару,
перайми сваё дабро
у шырокае гумно,
у мядзяныя вароты,
ў залатыя пераплоты.

7. Гукі дзе́ляцца на **галосныя** і **зычныя** ці **сугалосныя.** Галосныя гукі можна (льга) голасам цягнуць, пяяць, або вымаўляць бяз помачы іншых гукаў. Галосныя гукі: а (я), о (ё), у (ю), э (е́), ы, і.

Перапішэце гэтыя гукі.

Зычных гукаў нельга пяяць або вымаўляць бяз помачы галосных гукаў. Зычныя гукі: б, в, г, ґ, д, дз, дж, ж, з, к, л, м, н, п, р, с, т, ф, х, ц, ч, ш.

Перапішэце гэтыя гукі.

У складзе бывае заўсёды **адзін** галосны гук — колькі галосных гукаў у слове, толькі ў ім складоў: ка-лё-сы, пра-ле́с-ка, кні-га. Склад можа быць і з аднаго галоснага: а-бо, а-ле.

Зычных у складзе можа быць не́калькі і можа ня быць ніводнага: і-скрып-ка, а-бы.

Апрача гукаў галосных і зычных ё яшчэ гукі **паўгалосныя.** Паўгалосных два: *й*, *ў*. Гэта тыя-ж галосныя *і*, *у*, толькі вымаўляюцца яны карацей, так каротка, што іх без якога-не́будзь галоснага нельга выгукнуць.

Практыкаваньне. Перапішэце гэтую пе́сьню і літары, што абазначаюць галосныя гукі, падчыркне́це аднэй рыскаю; літары, што абазначаюць зычныя гукі — дзьвюма рыскамі; а паўгалосныя — трыма рыскамі.

Як тараканы каля хле́ба,
пасе́лі госьці ўкруг стала.
Смачныя йстравы з пе́чы Гэба
насіць да столу пачала.

І з пастаялкай жур сьцюдзёны,
а з кашы сала аж цякло,
ды і гусяціны пражонай
у волю ўсім гасьцём было.

Найпе́рш дала яна капусту,
тады са скваркамі куле́ш,
на малацэ крупе́ню густу
дае́ у волю, толькі е́ж.

Як уне́сла-ж на стол каўбасы,
бліны аўсяны ў рашацэ́ *),
аж сьлінкі пацяклі ў Тараса
і забурчэла ў жываце́.

**8. Цьвярдыя і мягкія галосныя.** Галосныя гукі паводле сває́ вымовы бываюць цьвярдымі (а, о, у, э, ы) або мягкімі (я, ё, ю, е́, і). Мягкія галосныя — гэта тыя-ж самыя, што цьвярдыя, толькі што яны зьмягчаны.

Практыкаваньне. Літары, што абазначаюць цьвярдыя галосныя, падчыркне́це аднэй рыскаю, а мягкія — дзьвюма.

Перапёлка, сізая галоўка,
не лятай па полі, ня зьбірай калосься,
ня ві гнязьдзе́чка, не кладзі яе́чкі:
пастухі пагоняць, гнязьдзе́чка разрыюць,
гнязьдзе́чка разрыюць, яе́чкі пабе́руць.

* * *

„Чаму ў цябе́, ваўчок, лапкі доўгі?“ Каляда! Каляда!
— У караля служыў, дровы насіў!
„Чаму ў цябе́, ваўчок, язычок тонак?“
— У караля служыў, паўміскі мыў!
„Чаму ў цябе́, ваўчок, хвасток довег?“
— У караля служыў, пакоі мёў,
Пакоі мёў, усё падмятаў! Каляда! Каляда!

**9. Цьвярдыя і мягкія зычныя.** Зычныя так сама вымаўляюцца то цьвёрда, то мягка. У словах *б*осы, *в*ол, *ґ*осьць, *дз*ылін, *з*орка, *к*ол, *л*ом, *м*ох, *н*ыркі, *п*ожня, *с*он, *х*ата, *ц*эп зычныя *б, в, г, дз., з, к, л, м, н, п, с, х, ц* чуваць цьвёрда.

Гэтыя-ж самыя зычныя чуваць мягка ў словах: *б*іць, *в*іць, *г*інуць, *дз*ік, *з*іма, *к*інуць, *л*ёгкі, *м*е́ста, *Н*ёман, *п*ята, *с*яньня, *х*ітры, *ц*яля.

Заўсёды цьвярдымі бываюць гукі *д, т*: *д*ым, *т*абе. Гукі *р, ж, ч, ш* ацьвярдзе́лі і бываюць так сама заўсёды цьвярдымі: *р*ака, *ж*орны, *ч*алаве́к, *ш*ыла.

Практыкаваньне. Літары, што абазначаюць цьвярдыя зычныя, падчыркнуць аднэй рыскаю, а тыя, што абазначаюць мягкія — дзьвюма:

Слоненька-каласок,
закаціся за лясок.

Слоненька нізенька,
нам да хаткі блізенька.

## На Купальле.

На Купальле, на сьвятое
рві матуля, зе́льле тое,
што ў нас папараць заве́цца
і шчасьлівым быць здае́цца!

Як нарве́ш яго даволі
ў цёмным ле́се, ў чыстым полі,
палажы за абразамі,
пасьвяці сваймі сьлязамі...

Двойчы, тройчы — а кропліста
зьлі сьлязою брылянцістай
і чакай з яго прыплоду
ад усходу да заходу...

Як і з зе́льля глянуць кве́ткі,
будуць шчасьце ме́ці дзе́ткі,
будзем, маці, ме́ці ў хаце
долю, згоду і багацьце!..

**Янка Купала.**

**10. Літара.** Значкі, каторымі мы запісуем гукі, завуцца *літарамі*. Усе́ літары мовы, пералічаныя ў векавітым парадку, называюцца азбукай або абэцэдаю.

Вось беларуская азбука: Аа, Бб, Вв, Гг, Ґґ, Дд, Е́е́, Ее, Жж, Зз, Іі, Йй, Кк, Лл, Мм, Нн, Оо, Ёё, Пп, Рр, Сс, Тт, Уу, Ўў,, Фф, Хх, Цц, Чч, Шш, Ыы, Ьь, Ээ, Юю, Яя.

### Вялікія і малыя літары.

Для напісаньня кожнага гуку ё па дзьве́ літары: адна малая, а другая вялікая. Вялікія літары так сама чытаюцца, як і малыя, толькі яны начай пішуцца і друкуюцца.

Напішэце ўсе́ вялікія літары.

*) Звычайна кажацца ў рэшаце, тут-жа націск на канцы дзеля рытмы.

11. **Літара** *й пішацца тады, як гук і чуваць каротка*, прыкл.: мой, край.

Практыкаваньне. Перапішэце ніжэйпаказаныя казаньні, зьмяніўшы іх так, каб чулася *й* (нашыя краі—наш край). Зялёныя гаі. Чыé гэта раі? Слаўныя былі калісь беларускія воі. Не патрэбны нам панскія пакоі. Тут добрыя пагноі.

Перапішэце і замéста крыжыка пастаўце *і* або *й*. Гэта тво× конь. Ці любіце вы піць сырадо×? Вадо× зьнéсла мост. Укро×—ня ўдо×. Пада× мнé піць Ня руш нікога, ня бо×ся нічога. Там жыцьцё ра×, дзé свабодны кра×. Клé× вараць з капытоў. Авéчк× даюць ло×. Бабуля бае ба×кі. Ё× трэба памыць да×ніцу і пада×ць карову. Ігнатка по×дзе ў школку. Не пазіра× на мянé. Сво× сва×му павінен памагаць. Кінь прад сабо×, зно×дзеш за сабо×. Мый, вый, шый, рый.

12. **Літара** *ў пішацца тады калі чуецца гук* **у** *каротка;* прыкл.: кароўка, воўк, быў.

Практыкаваньне. Перапішэце і пастаўце замéста крыжыка *в* або ў. Ёсьць вяро×ка, але няма каро×кі. Во×к да лéсу цягне. По×на бочачка вінца, ні дзірачкі, ні канца. По×ен гаруд збожжа. Пі×, пі×, ды не дапі×. Юрка папераза×ся да×гім паясом. У ліса х×ост довег. Спусьцілі чо×ен у ста×. Зламі× лé× зайца і хацé× яго зьéсьці. Чу× з×он, але ня вéда×, дзé ён. С×аты паéхалі дамо× з вясéльля. Дро×ы ляжаць на дры×отні. Прынясі мнé дро×. Настала вялікая дараго×ля.

13. **Гук** *дз. Дзеля абазначэньня гуку* **дз** *ужываюцца дзьвé літары*: пр.: нядзéля, дзіва.

Практыкаваньне. Перапішэце ніжэй надрукаваныя казаньні: Дзіцяці далі малака. Калі вядзéцца, дык і на шчэпку прадзéцца. Ужо сёмая гадзіна. Пайдзéма на ўлазіны да Савінічаў. Дзікі вядуцца ў пушчы. Дзічкі растуць у лéсе. У панядзéлак у нашым мéстачку торг.



Сёлета збожжа добра ўрадзіла. Памажце дзёгцем колы. Дзядзіна купіла абаранак. Дзяцюк купіў боты. Дзякуй Богу за пагоду. Нясуворныя людзі часта вадзяцца. Благія сусéдзі часта судзяцца. Пад вéчар засьцюдзянéла на дварэ. Што будзе міру, тое й бабінаму сыну. Захаваў так, што ніхто ня знойдзе. Што ў лéсе родзіцца, у дварэ згодзіцца. Злодзею няма вéры.

14. **Гук** *дж. Так сама дзеля абазначэньня гуку* **дж** *ужываюцца дзьвé літары:* пр.: хаджу, ваджу.

Практыкаваньне. Перапішэце ніжэй надрукаваныя казаньні і зьвярнéце ўвагу, дзé пішацца *дж*. У гародзе пасаджана рэпа. Наш сад абгароджаны. Дзяўчына на год згоджана. Я вам раджу вучыцца. Пагляджу, што з гэтага выйдзе. Беларускае адраджэньне пачалося ў 19 вéку. Пайшоў дробны дожджык. Ці купілі вы дражджэй? Дажджавая вада цёплая. Я абглéджу ўсю сялібу. Блуджу па гэтым лéсе. Ненавіджу я нéпрыяцеляў майго народу! Гэты ручай я адводжу ў бок. Заскароджавай баржджэй гарод. Прыяжджай з баронамі да мянé.

15. **Знак** *ь* пішацца дзеля абазначэньня мягчыні зычнага: куль (але кол), Антонька (але Антон), цьвéт, вось і г. п.

Практыкаваньне. Перапішэце і пастаўце, дзé патрэбна, замéста крыжыка *ь*. Стал× кавац× цяжка. Кавал× куé ў кузьні Хлопчык× парэзаў пал×цы. Прывезьлі кул× мукі. Падай мнé гэны кол× У нашай хаце стол× пабéлена. Стол× стаіць ля сьцяны. Мол× паéла вопратку. У трысьцяні мнуц× лён×. Авадзéн× укусіў каня. Лапацéн× такі боб. Які сяганьня дзéн×? Гаспадар купіў сажан× дроў. Увéчары цéн× вялікшы, як у дзéн×. Камéн× на камяні ляжыц×! Прос×ба не заўсёды памагае. Пачалася кас×ба. Штось забалéла ў грудзёх. Бац×ка гарэ ля лéсу. Каму гара-

вац×, таму ня ўмірац×. Дрэвы і краскі цьвітуц×, а травы красуюц×. Якаясь рэз× у жываце́. Зямлі ў іх адзін рэз×. Скарадз×ба ўжо скончана. Ах, які-ж ты забудз×ка! Брыдка быц× нямыц×кам. Едз×ма дамоў, людзячкі. Сядз×ма вось тут. Ве́дз×мы нідзе́ няма.

16. **Адлучэньне зычнага ад мягкага галоснага.** *Напару трэба адлучыць зычны гук ад мягкага галоснага, каб яны ня зьліваліся* (*аб'ява, зье́хаць*), *тады ставіцца паміж імі або коска ў версе'* (калі зычны цьвярды—аб'е́хаць) *або* ь (калі зычны мягкі—зье́хаць).

*Перад адкрытымі мягкімі галоснымі зычны* **з** *заўсёды мяккі.*

*Пасьля зычных* **б, п, м** *ніколі ня пішацца* **ь**.

Практыкаваньне. Перапішэце і пастаўце заме́ста крыжыка *ь* або' ўве́рсе. У Адамовых вялікая сям×я. П×янства найгоршая хвароба. Ня я б×ю, вярба б×е́. Аб×е́халі навакол поля. Нядаўна быў з×е́зд. З×е́ж гэтую йгрушку! Ле́дзь уз×е́халі на гару. Аб×е́лі нас розныя чужнікі. Калі ня п×юць, то й ня дзякуй. Адкуль вы з×явіліся сюды? Масла з×ялчэла. Ці вы, дзе́ткі, ужо пад×е́лі? Конь надта з×ёхлены. Крэй нас, Божа, ад пад×ярэмнага жыцьця! Ад×е́халі вярсту ад рэчкі. Іржа з×е́ла коску. Ня можна п×янчыцца. Авёс пасе́ены на з×е́дзьдзі. Госьці ўжо раз×е́халіся. Восем болей за се́м.

17. **Гуг** *д бывае толькі цьвярды.*

Практыкаваньне. Перапішэце. Відаць, але далёка дыбаць. Дарога была благая. Ці гэта праўда? Дразды зьвілі гняздо. Даве́дайцеся, калі пачынаецца занятак. Наш сусе́д паставіў вялікі дом. Дым ідзе́ з коміна. Дудар зробіў дуду. Чаго вы бядуеце? Вада цячэ з жарала.

18. **Пераход** *д ў дз. Гук* **д**, *зьмягчаючыся, пераходзіць у* **дз**, *ці іначай кажучы*: **д** *перад мягкімі галоснымі* (я, ё, ю, е́, е, і) *і перад* **ь** *пераходзіць у* **дз**, *або: перад мягкімі галоснымі* **і ь** *ня пішацца* **д**, *а пішацца* **дз** (*сад* — у садзе, дуда—на дудзе́).



Практыкаваньне. Перапішэце і пастаўце заме́ста крыжыка *д* або *дз*. Не ра×іся краснай, а шчаснай. Яны ×еля ×яце́й пера́ехалі ў ме́ста. У гаро×е расьце́ мак. У рацэ вя×уцца ракі і рыба. Настуля паса×іла чарвоную рожу. Калі йстрава даго×е, то й самавар не пашко×е. Бя×уля на бя×е́ вязе́ муку. Бу×е й на маім рынку кірмаш. Чатыры вярсты за пяць ×ён як агнём спаліў. Пае́×ем лавіць рыбу. І сава свае́ ×е́ці хваліць. Це́сна ся×е́ць на гэтай лаўцы. У са×е растуць са×овыя дрэвы, а ў ле́се ×ікія. Цыганы ся×яць у бу×е́. Вучыцель ішоў напе́ра×е. Шмат ё цікаўнага ў нашым наро×е. У караго ×е было шмат ×яўчат. Дзяцючкі коўзаюцца на лё×е. Сяке́ра тырчыць у кало×е. Няма ро×у бяз выро×у.

19. **Гук т** *бывае толькі цьвярды* (кот, той).

Практыкаваньне. Перапішэце. Пот крывавы заліў вочы. Гэта твая кніга. А хто ў полі рана гукае? Мая хата з краю. Ле́тась была вялікая паводка. Ля стала стаяла маці. Сёлетняе жыта ўмалотнае. Ля плоту пасаджаны ліпы. Тата зьбіў пласт се́на. Будзе й на нашай вуліцы сьвята.

20. **Пераход т ў ц.** *Гук* **т**, *зьмягчаючыся, пераходзіць у* **ц**, *або: перад мягкімі галоснымі* **і ь** *ня пішацца* **т**, *а пішацца* **ц** (плот, але на плоце).

Практыкаваньне. Перапішэце і пастаўце заме́ста крыжыка *т* або *ц*. Буслы паля×е́лі ў вырай. Дзі×я рась×е́, як на дражджах. Жанкі бе́ля×ь палатно. Жыды жыву×ь у ме́сь×е. ×ётка ме́сі×ь це́с×а. Як ба×ькі ×вае́ маюцца? Хо×ь вох, да ў двох. Ні ў пяць, ні ў дзе́ся×ь. Цяжка жыц× у галі×е́. Што ў тваёй калі×е́? Панас людзяў па ўсім сьве́×е. Завары ліповага ×ьве́×у. На плы×е́ стаялі плы×нікі. Птушка ля×і×ь у ×ёмны ле́с. За аднаго вучонага дзе́ся×ь нявучоных даю×ь і то не бяру×ь. Усё ×е́ла ў ранах. Маці любі× сына. Гвазды робя×ь з зяле́за. Салаўі пяю×ь у маі. Асака рась×е́ на

бало×е. Цэглы робя×ь з гліны. У ку×é стаяла шахва. Сырадой пі×ь здарова. У ха×е гаманілі людзі.

**21. Няясныя зычныя: б-п, д-т, г-х, дз-с, дзь-ць, з-с, зь-сь, ж-ш.**

*Калі гукі* **б, д, г, дз, дзь, з, зь, ж** *стаяць перад зычным, або на канцы слова, дык яны напару чуюцца* як **п, т, х, ц, ць, с, сь, ш.** *Каб давéдацца, што пісаць, трэба слова зьмяніць так, каб пасьля нявыразьлівых зычных стаў галосны гук.*

Прыкл.: рыбка — рыбанька, гарод — гароду.

*б-п.* Перапішэце і замéста крыжыка пастаўце *б* або *п*. Затрубі ў тру×ку. Засы× гэтую яму. Баліць зу×. Злавіў малую ры×ку. Цяпéр хлé× дарагі. Кот адмаразіў ла×ку. Гдзé ты дзéў ша×ку? Насып аўсу ў жола×. Важыш на ры×ку, важ і на юшку. У Адама высокі ло×. Ло× яго ла×кай па плячох. У гародзе расьцé бо×. Цэ× вісіць у гумнé. Поўная лу×ка збожжа. У садзе ля плоту пасаджаны лі×кі і ду×кі. Не адарві поча×кі ад калыскі. Укінь у гаршчок нéкалькі дра×коў солі. Музыка іграў на іскры×цы. Галу×ка лётае па загумéньні. Хлé× на сталé, рукі свaé. Паставілі чатыры ко×кі сéна. Кру×ка кру×ку даганяе.

*д-т.* Перапішэце і замéста крыжыка пастаўце *д* або *т*. Іду па кла×цы. Мё× сало×кі. Сабака зьнюхаў сьлé× зайца. Адгадай гэтую зага×ку. У маім са×ку сьпéюць яблыкі. Адкла× ня йдзé ў ла×. На рацэ таўсты лё×. Ха×ка старэнькая пахілілася. Ты, бра× мой, éж хлéб свой. Рыбку можна лавіць і ву×кай і сé×кай. Кожны наро× павінен шанаваць сваю мову. Гэта квé×ка не для твайго носу. Гра× пабіў пшаніцу. Гола× мучыць людзéй. І я быў калісь мола×. У каваля цяжкі мола×. Калі маеш гару× жыта—будуйся. Добра ду×ка лазовая, а ляпéй дуда вялікая. Улé×ку люблю цябé, дзé×ку, а зімой зьéм хлéб з сьвіньнёй.



Дзéці пайшлі ў са×. Каля×кі—гаспадарскія пара×кі. Прышлі Каля×кі, бліны ды ала×кі. Жы× краму паставіў ля свайго панадворку. Дзé× сплёў лубку.

*г-х.* Перапішэце і замéста крыжыка пастаўце *г* або *х*. Сёлета гаро× стручны. Адзін наро× прытупіўся. У медзьвядзя ёсьць мярло×. Калі вы аддасьцё доў×? Для цяляці адгароджаны кату×. Зраньня йдзé сьнé×. Бо× усё бачыць. Добра зрабіў Бо×, што ня даў сьвіньні ро×, яна-б увéсь сьвéт пабала. Пастух сьцяро× авéчкі. Воўк-каню× зарэзаў каня. У Мікітавых дзьвéры напіта адчынены: ду× спушчаюць: чад. Так лё×ка стала на сэрцы, быццам камéнь з грудзéй зваліўся. Адзін éхаў з возам, а другі ўлé×цы. Ламаць дрэвы грэ×. Начлéжнікі паéхалі на начлéг×. Праз дзіравы мé× збожжа сыпецца. Якая дра×кая дарога! Няма нам ніякае палё×кі.

Абяцаў пан кажу×, слова яго цёпла. На грудзé стаіць вялікі сто× сéна. Статак пасéцца ў ла×чынé.

*дз-ц.* Перапішэце і замéста крыжыка пастаўце *дз* або *ц*. У Слу×ку ўсё па лю×ку. Ёсьць праца грама×кая і прыватная. Мы сягоньня варылі клё×кі. Калісь пола×кія князі ваявалі з кіеўскімі. Ксён× паéхаў да хворага. Англі×кая мова вельмі цяжкая. Навагра×кі і Ашмянскі павéты сумéжныя між сабой. Купé× купіў лён. Кравé× пашыў сьвітку.

*дзь-ць.* Перапішэце і замéста крыжыка пастаўце *дзь* або *ць*. Лéдзь падняў гэты камéнь. Увосень капаюць рэ×ку. Ах, які-ж ты ляну×ка! Наш забу×ка часта забываецца. Хвалько нахваліцца, а бу×ка набудзецца. Няхай-бы рабіў баржджэй, а то порыцца, порыцца: чысты ўжо паро×ка. Прыглé×ся да яго: які ён вялікі вырас. Ся× бліжэй. É× баржджэй, ды заé×ся па дарозе ў мястэчка. Лéбе× плавае. Ба×кі гадуюць дзяцéй. Поўная клé× аўсу. Салома пачала тлé×. Зацягні калёсы пад павé×. Думкі за гарамі, а сьмéр× за плячыма. Мé× дастаюць з зямлі. Роўня×—гэта

роўная зямля. Дзёга× гоняць з дрэва. Гаспадар паставіў валікую ка× капусты. Ня ва×цеся, людзі, бо ўсім блага будзе. Мала×біты вымалацілі два пасады жыта.

*з-с*. Перапішэце і замёста крыжыка пастаўце *з* або *с*: На страсé мох вырас, на моху бяро×ка, мілéй свая хатка, як чужая вё×ка. Бéгала лі×ка каля лéсу блі×ка. У кніжцы шмат абра×коў. Ма×кай мажуць скwараду, пякучы бліны. Пакаціліся сьлё×кі з вачэй сіраціных. Бабуля ўмée расказаваць цікаўныя ка×кі. Густы лé× завéцца гушчаром. Калядамі бывае вялікі маро×. Ка×цы нéсьлі шэсьць ко×. У гародзе ходзіць пяць ко×. Во× сéна ўціскаецца рублём. Бэ× пахне. Увéсь лé× роўны, адзін сук доўгі. Тру×, або пясак пужлівая жывёлінка. Дзяцючок тро× яблынку. Вера× цьвіцé ўвосень. Шавéц падбіў падно×кі. Житні кола× даўжэйшы, чымся ячмéнны. Пола× прымéрз да сьнéгу. Яго зычны гола×. Укінь трэ×ку ў агонь.

Быў ква×, ды ня было вас. Вырві кра×ку сабé.

*зь—сь*. Перапішэце і замéста крыжыка пастаўце *зь* або *сь*. Зьлé× з дрэва. Гу× цяпéр дорага каштуе. Ужо пачалася ка×ба. Напішы мнé про×бу. Такая нягода, што хоць ты з хаты ня выла×. Дзядуля сядзіць на пры×бе. Хадо×ка пайшла ў школу. Юга×ка і Лявo×ка пайшлі ў ягады. Ка×біт косіць сéна. У драбіне зламалася во×.

*ж—ш*. Перапішэце і замéста крыжыка пастаўце *ж* або *ш*. Каб ня é×ка, не адзé×ка, дык была-бы грошай дзé×ка. Пераз Беларусь исту×кай ліéцца рака Нёман. Работнік ця×ка працаваў. Пту×ка зачапілася но×кай за волас сіла. Складаны но× начай зявéцца складанчыкам. Ля дарогі стаіць кры×. У краме прадавалі ры×. Выгарні качарэ×кай вугаль з пéчы. Сьвіньні бяз вобме×кі ня будуць éсьці. Узімку часта жэняць Цярэ×ку, гэта значыцца, робяць такія гульні. Котка злавіла мы×ку. Ці цот, ці лі×ка? На паліцах ляжаць кні×кі. Поўны ко× бульбы. Калі ўзяўся за гу×, не



кажы, што ня ду×. З éлкі звалілася шы×ка. Гушчу зьéў, а жы×ку пакінуў. На мура×ку смачная трава. На ўзьмé×ку пасту×ка пасьвіла карову. Мы ня хочам быць нічыймі ўзьмé×камі. Усю зімачку ў адным кажу×ку хаджу. Баранчык зламаў но×ку. Лясьнікі ішлі пераз лéс вузкой даро×кай. Поўная лату×ка малозіва. На исту×цы крыжычак вісіць. Ляж на ло×ку.

**22. Гукі** *ж, ч, ш, р заўсёды цьвярдыя і пасьля іх ня бывае мягкіх галосных* (я, ё, ю, é, і), *а бываюць цьвярдыя галосныя* (а, о, у, э, ы). *Таксама пасьля* ж, ч, ш, р *ніколі ня пішацца* ь.

Прыкл.: шэры, жырны, чэсьць, ноч, чужнік.

Практыкаваньне. Перапішэце і замéста крыжыка пастаўце *і* або *ы*. Прач×тай гэтую кн×гу. У іх ч×ста ў хаце. Малы жук, а вял×к× гук. Шавéц паш×ў боты. Жнéі жнуць ж×та. Налі вады ў кар×та. Адз×н вол падлас×, а друг× раб×. Ч×ж×к, ч×ж×к, дзé ты быў? Як лаж×цца, дык ня можа набыцца. Будзем вуч×цца, пакуль сьмéрць луч×цца. Калі ня люб×це маé ігр×, д×к заб×раю сваю дуду ды дамоў пайду. Пастух паліч×ў авéчкі. Пакуль жан×цца, зага×цца. Складаны нож×к. Доктар лéч×ць хворых. Сяньня ў нас даж×нкі. Купцы купляюць кон×. Сьвéт Бож× ш×рокі. Ляцéлі гусанькі шэр×я. Ня пéрш× раз ваўку ў лéсе зімаваць. Камéнь ляж×ць на мяж×. Гапуля шч×рая да працы. Каровы р×каюць. Дзé прапала кароўка, там няхай і вяроўка. Нашч×пайце яблыкаў. Пайшлі вялікія дажджж×. Палаж× на паліцы дрожджж×.

Практыкаваньне. Перапішэце і пастаўце замéста крыжыка *е* або *э*. Смачныя сьпéлыя чар×шні. Ігнат гар× поле. Нар×ж дубцоў на вéнікі. Як на стал×, то рукі сваé. Насадзілі шмат р×пы. Р×кі цякуць у мора. Ляпéй галав× пакланіцца, чымся нагам. Вінцуль прынёс ж×рдку з л×су. Ч×сным людзём тр×ба в×рыць. Стукнулі, грукнулі на двар×. Раньняя птушка зубкі цяр×біць, а позьняя вочкі

тр×. Ш×сьць дзён малаціла. Вуч×ньне кончыцца ў ч×рв×ні. Язэп зьняч×ўку схапіў Максіма за пл×чы. Ужо распусьціліся др×вы. Красачкі зацьвілі жоўтым цьвётам. Жонкі пяюць ля варот. Чаго ты ч×пішся да людзей? Ня добра быць нач×паю. Яго хл×б ч×рствы. Сабака бр×ша. Падай мне р×шата. Памагайце адрадж×ньню свайго народу! Мы барждж×й едзем за іх. Дзеці скублі пер'е. Конь цягне саньнік сена. Якая месячная ноч! На ўзгор'і рос хвойнік. Чакай, баран, пакуль трава будзе. Котка злавіла мыш. Сяньня харошае надвор'е.

## Аканьне.

**23.** *Галосны* **о (ё)** *бывае толькі пад націскам, калі на* **о** *няма націску, дык яно заўсёды пераходзіць у* **а**.

Прыкладам: кол, стол, водны, год, вокны, цёплы, але—калы, сталы, вада, гады, вакно, цяпло, сонца і г. д.

Практыкаваньне. Перапішэце і пастаўце заместа крыжыка *а* або *о*. М×л×дому мол×д×сьць, а ст×рому стар×сьць. Слов×мі мы выказуем нашыя думкі. В×рт×ўнік ходзіць ун×чы н×ўкол× дому. Бедн×я тв×я г×лов×нька! Бл×г× яму х×дзіць у маразяную ноч. П× м×ей г×л×ве аст×нец-ц× ўсё т×бе: і т×ўкач, і мялён, і ст×рожа, і прыгон. Глух× вербы плачуць. В×ўка ногі кормяць. За дурной г×л×вой і н×гам несп×кой. Жыт× кр×суе. У Г×нульчыным г×родчыку р×стуць крас×чкі. ×дчыні в×кно. Хто г×рэ на в×лу, той сьпіць на к×лу. Г×рэш на в×лу, сьпіш сьмел× на п×лу. Учора было сьвят×. Дзе р×сьце зв×нец, там пожні к×нец. Б×рн×в×лок з×б×рн×ваў троі гоні. Д×бро трэб× помніць. Лет×шні год быў цёплы. Р×зл×жэце, дзяцючкі, цяпло. З×б×л×л× ў сэрцы. Заплюшч вок×. Заткні вух×. Дай мне гэтую г×ліну. Страшн×я г×літа ўсюды.

**24.** **Голосны э** *бывае толькі пад націскам. Калі на* **э** *няма націску, дык яно заўсёды пераходзіць у* **а**: рэзаць, рэкі, чэша, брэх, шэпт, але—разьнік, рака, часаць, брахаць, шаптаць, кажа і г. д.



Практыкаваньне. Перапішэце і пастаўце заместа крыжыка *а* або *э*. Сабака брэш× на панадворку. Папрадуха спрала дзьве кудзелі пач×сься. Дзякуй вам за ч×сьць. Ці ч×ставалі вы гасьцей? Бр×хло ты, што ты тут брэш×ш бесьпер×станку? Ня йдзеце ў ц×льнёг, бо заваліцеся: сьнег мягкі. Наш ячмень рэдкі, а ваш яшчэ р×дзейшы. На рынку ц×на паднялася. Вы колькі сц×наваліся за каня? Малацьбіты малацілі ў тры ц×пы. Не ч×пайце людзей і вас ніхто не зачэпе. Пач×кайце тут крыху. Трэба цэд адц×дзіць. Гэта куж×льнае палатно. Гаспадыня з куж×лю зрабіла ц×дзілку. У ц×гельні робяць цэглы. Бандар змайстраваў цэбар. Тры ц×бры вады паставілі ў лазьні.

Практыкаваньне. Перапішэце і пастаўце заместа крыжыка *а*, *о* або *э*:

### Дуб.

Р×спусьціўшы сучч×
у глухім прывольлі,
сам ×дзін р×сьце ён
н× д×лёкім полі.

Як цар у к×роне
×б нічым ня дбае,
ці то стогне бура,
ці віхор гуляе.

Н× ×дным ён месцы
днюе і начуе,
мног× каз×к знае,
мног× песень чуе.

Дождж п×дмыў карэньне;
у ім дупло, як хата...
ён стаіць і дрэмле —
грозны, р×сс×хаты.

Правілы аб ненацісьненым *о* і *э* можна замяніць адным гэткім правілам: *у цьвярдых ненацісьненых складох ня бывае* **о** і **э**, *а бывае* **а**.

**25.** **Галосны** *е. Ёсьць літара* **é** (*націсьненая*) *і літара* **е** (*ненацісьненая*); **é** *вымаўляецца выразьліва і пішацца тады, калі на ім ёсьць націск:* нядзеля, каменьне, хлеб, неба *). *На* **е** *націску ня бывае, і яно вымаўляецца*

*) такія словы, як *перад*, *цераз*, *пераз*, *але*, *без*, *дзеля*, свайго націску ня маюць, становячы быццам часьць таго слова, перад якім яны стаяць, дзеля гэтага над імі ня ставіцца знак націску: перад намі, цераз хату, пераз гарод, але так нельга, бяз нас, дзеля таго і г. д. Калі-ж *але* абазначае пацьвярджэньне, то яно мае націск: ці гэта праўда?—але́.

*найчасьцей шырэй за* **е**, *так, як* **я** (восень, ве́цер, лесавік, пытае, велічыня, поле), *а напару і вузей за* **е** *), *так, як* **і** (чытаеш, пытаецца, бе́ленькі).

*На пісьме́ ў складох пасьля націску* **е ў я** *звычайна не пераходзіць.* Прыкл.: вучыцель, у хаце, брацейка, сіненькі.

*У пе́ршым складзе перад націскам* **е** *заўсёды пераходзіць у* **я** **). Прыкл.: вясна, цяпе́р, зялёны, няма.

**Увага 1.** *Пры разгляданьні правіла аб аканьні склады лічацца ад націску да пачатку слова гэтакім парадкам:* вес (2)—на (1)—ва-я (на—пе́ршы склад, вес—другі). Ве (3)—ра (2)—ця (1)—но і г. д.

**2.** *Не* і *без* у гэтым прыпадку лічацца складам таго слова, перад якім яны стаяць: ня ве́даю, ня бачу, ня мог, бяз хаты, бяз рук, бяз ног.

Практыкаваньне. Перапішэце і пастаўце заме́ста крыжыка *е* або *я*: Н× я б'ю, в×рба б'е́, за тыдз×нь В×лікдз×нь. Ціха ў хац×—уся с×ме́йка сьпіць ды спачыва×. Чытар чыта× кнігу. Нянька забаўля× дзіця. Нарві мне́ сін×нькіх красачак. Цыган, як гале́×, дык сьмяле́×. Н×ма калі нам гуляць. Дзе́ці любяць любов×нькае мяса. І не агле́дзіліся як ле́ц×йка прайшло. У іх в×лікая б×да. Што мучыць с×гоньня, што думкі трывожа, — зьб×жыць і н× прыйдз× ніколі. Дз×дуля в×рнуўся з кірмашу. На в×роўцы вісіць хусьц× (порц×). Тры м×хі насыпалі бульбы. Гэта с×ке́ра прытупілася. Хто в×сёлы, хоць і ў горы, таму слава. Чаму ты н× быў на в×се́льлі? Сьне́гам ве́ц×р сып× ў дзьве́ры. Ходзіць шум па ле́с×. Мы былі ў л×сным гушчары. Жн×я стаяла на м×жы. Падм×ці хату. З×мля, наша маці родная! Вострае л×зо. С×стра прышла да брата. Н×ма служкі для пастушкі. Там добра, дзе́ нас н×ма.

*У другім складзе перад націскам* **е** *толькі тады пераходзіць у* **я**, *калі ў пе́ршым складзе перад націс-*

*) Вузей *за е* вымаўляецца не па ўсёй Беларусі.

**) Гэтае правіла можна гэтак сказаць: *у пе́ршым складзе перад націскам ня бывае* **е**, *а бывае* **я**.



*кам няма гуку а* (*я*): лясуны, нявучоны, ня была, бяз дзіцяці, але—лесавік, веснавы, не магу, без дачкі, без цябе́.

*У трэцім, чацьве́ртым і дале́йшых складох* (лічачы ад націску да пачатку слова) **е** *ніколі не пераходзіць у* **а** (**я**): верацяно, без верацяна.

**Не, без, перад, пераз, пера** і **цераз** падпадаюць пад агульнае правіла аб аканьні: няшчасьце, няволя, бяздомны, непачэсны, безгалосы, перавоз і г. д. Так сама калі не, без, перад, цераз, стаяць перад другім словам, але пішуцца асобна: ня маю, ня ве́даю, бяз хле́ба, бяз нас, перад ім, не даве́даўся і г. д.

Практыкаваньне: Перапішэце і пастаўце заме́ста крыжыка *е* або *я*: Не́йкі н×знаёмы чалаве́к увайшоў у хату. Ля хаты быў н×в×лікі гародчык. Гэты шнурок н× выдз×ржыць ц×жару. Ніхто н× ве́да×, як хто абе́да×. Наш тата зан×ўздолеў. Заме́ста м×не́ яго ўз×лі ў салдаты. Зап×е́ш ты ў м×не́ другім голасам. Н× запрогшы, не кажы „но“. Н× затаўкай крупе́ні, мяса пакладзе́цца. П×раз сілу і конь н× пацягне. Н×прыве́тна п×раз вокны ночка пазіра×. Трэ было-б жаць сягоньня ячме́нь, бо п×расьпе́×. Пал×ўнічы забіў ц×ц×рука. Тут асталіся мае́ н×даборкі. Н×лёгкую гадзіну п×р×ц×рпе́лі мы. Н×хай Бог табе́ паможа. Н× кладзі сабацы пальца ў рот, бо адкусіць. Калі Бог злучыць, чалаве́к н× разлучыць. Колас, што з×рнят н× ма×, дагары лоб задзіра×. Дз×цюкі пайшлі ў грыбы. ×шчэ з×л×наватая садовіна. Ці н× дав×даліся вы хворага? Цыган, дзе́ткі, н× багаты. Правады на в×ташку насе́ньне ў гаршку.

Практыкаваньне. Перапішэце і пастаўце заме́ста крыжыка адну з літар — *а, о, э, е, я.*

## Адцьвітаньне.

Н× ш×сьцяць к× л×сы,
звон н× валіцца з к×сы,
н× кл×дуцца ў стог пл×сты;
толькі сыплюцца лісты .
н× ×ловыя кусты,
н× сухія в×р×сы.

Н× іскрыцца н×б×зор,  
н× цьвіцé трава-чабор,  
н× цыгліць птушыны стан;  
толькі поўза× туман,  
вéц×р б'é ў н×мы курган,  
ш×п×ціць імглісты бор.

**Янка Купала.**

**Увага.** Словы—**мéсяц, заяц, дробязь, памяць, дзéвяць, дзéсяць** маюць у пéршым складзе ад канца *я*.

**26. Зычныя** з, с, ц, дз *перад мягкімі зычнымі зьмягчаюцца; значыцца пасьля іх пішацца* **ь.** *Толькі перад* **г** і **х** *зычныя* **з, с, ц, дз** не *зьмягчаюцца* *).

Прыкладам: зьбіць, зялéзьзе, сьцяна, дзьвéры, судзьдзя, госьць, ськівдаць; але — згінь, схістануцца.

Практыкаваньне. „Перапішэце і замéста крыжыка пастаўце, дзé патрэбна, **ь.** С×кінь гэта рыз×зё. Купéц зарабіў дз×вéсьце рублёў. Маці с×хінулася над дзіцянём. У прочкі з×бірайся, а жыта сéй. Пустой птушкі, дык пустыя й пéс×ні. Вучанік прачытаў дз×вé кнігі. Ні с×цяты, ні павéшаны. Ўзімку з×вяры хаваюцца ў норы. Пас×пéх людзём на с×мéх. Яго голас з×віініць, як званочак. С×ліна бывае зараз×лівая. Раз×нік зарэзаў барана. Ня рыпайце дз×вярыма. Цыган, як галéе, дык с×мялéе. С×ляпы ішоў вошчупкам. Мы былі ў гас×цёх. Ці ёс×ць у вас с×віран? Шкло якоесь ц×мянае. Яблыны ц×вітуць бéлым ц×вéтам. Ляжалі гурбы с×нéгу. У крыніцы вада с×цюдзёная. Сонца с×вéціць. Чаго-ж ты так з×бéдніўся? Вéра з×віла вянок з васількоў. Воўк сабакі не баіцца, але з×вягі ня любіць. С×вéт Божы шырокі. Мнé сонца ас×ляпіла вочы. Хто éдзе на снасьці, а хто на шчас×ці. С×цебані каня пугай. Маладас×ць—усё дурнас×ць. Надовічы мы людзялі на лаз×бінах. Мядз×вéдзь кінуўся на чалавéка.

**27. Зычныя н і л** *перад мягкімі* **н і л** *зьмягчаюцца, значыцца паміж імі трэба пісаць* **ь.**

Прыкл.: чытаньне, сягоньня, вясéльле.

Практыкаваньне. Перапішэце і падчыркнéце

*) Правіла гэтае можна выказаць нáчай, гэтак: *пасьля зычных* **з, с, ц, дз** *пішацца* **ь,** *калі паміж імі і мягкімі галоснымі або* **ь** *стаяць другія зычныя* (апрача **г, х**).



ь паміж *нн* і *лл*. Сяганьня мéсячна было ўначы. Дзядзька пайшоў у госьці да пляменьніка. На Купальле ірвуць краску папараці. Дзяўчаткі назьбіралі зéльля. Юрка маў чыстае сумлéньне. Ільля нарабіў гнільля. Адсыпалі збожжа на насéньне. Людзі насілі гальлё з зарасьніку. Марка чэша кальлё. Ральлю пара баранаваць. Чыё гэта пісаньне? Трэба вучыцца без агіляньня. Зараз будзе рысаваньне. Гасьцéй пасадзілі на застольлі. Марка бачыў зданьнё. Гапуля занясла бацьку сьнéданьне. Стагнаньнем нічога не паможаш. Вучанікі за зіму навучыліся складаньня, адыманьня, множаньня і дзялéньня. Трэба ўмéць адказаваць на пытаньні. Было дзіўное здарэньне.

**28. Гукі у-ў.** Калі гук *у* стаіць асобна або ў пачатку слова, дык ён бывае то кароткі, то даўгі.

**Ў** (*кароткае*) *ўжываецца тады, як папярэдняе слова канчаецца на галосны гук.*

Прыкладам: Была ў хаце. Яна ўжо пайшла.

**У** (*даўгое*) *ўжываецца тады, як папярэдняе слова канчаецца на зычны або паўгалосны гук, або калі перад* **у** *ёсьць які-нéбудзь знак прыпынку* *).

Прыкл.: Быў *у* хаце. Ён *ужо* пайшоў. Дай *у*кусіць яблыка. Ішлі проста сьцéжкаю,—*у*сё-ж бліжэй было.

Практыкаваньне. Перапішэце і пастаўце замéста крыжыка *у* або *ў*. Поўна красачак × лéсе. Заяц ×цёк. Ты ×жо стары. Дзяцюкі пайшлі × лéс. Сьмéрць, ×злаваўшыся, ×лéзла × хату пераз комін. Я тут ×жо даўно жду цябé. Рыба вядзéцца × вадзé. На ×зьлéсьсі стаіць хатка. На ×зьбярэжжы ракі паставілі лазьню. Гартаі загаралі ×сё поле. Было × бацькі тры сыны, ды ×сé-ж яны Васілі. Васількі бацька ×жо вярнуўся з поля. Сын ×жо вялікі вырас. Пусты ўлéтку нашы сёлы, ×сé на полі за сярпом. Я роднае мовы ня кіну × нядолі. Ані мовы я сваé роднае ня чую, ×сё чу-

*) У пéсьнях народных і штучных дзеля разьмéру можа быць *ў* замéста *у* і наадварот (гл. стр. 6—найпéрш дала яна капусту і г. д.).

жое ля мяне́ навакол пануе. Люблю туман × позну восень. Кнігі ×се́ аддайце Іваньку. Пазыч грошай × Сьцяпана.

*Калі гук* **у** *стаіць асобна пасьля зычнага, або паў-галоснага гука і пасьля* **у** *слова пачынаецца цьвярдым галосным гукам, дык да цьвярдога галоснага дадае́цца ўпе̂радзе* **в**.

Прыкл.: Быў у ваднаго гаспадара дужы конь.

Практыкаваньне. Перапішэце. Убі цьве́к у васінавае пале́на. Асінавыя дровы блага гараць. Пастухі клалі вялікі агонь. Дом быў уве́сь у вагні. Конь е́сьць аве́с. Конь у ваўсе́. Адзін мужык ды добра з жонкай ладзіў. У ваднаго дуроніка быў складанчык. Каровы хадзілі па асацэ. Вол уле́з у васаку. Снапы сушаць у вазяродзе. На гумнішчы быў азярод. Вокны былі адчынены. У вадчыненых дзьвярах стаяла дзе́вачка.

**29. Гук і**, *стоячы асобна ці ў пачатку слова, — пасьля галосных скарочуецца (але не заўсе̂ды), значыцца, пераходзіць у* **й**. Прыкл.: Ён ідзе́, яна йдзе́.

Практыкаваньне. Перапішэце. Калі не на-е́ўся, то й не наліжашся. Міхалка йшой па дарозе. Пуста й гола ўсюды. У пустой птушкі — пустыя й пе́сьні. Ён яе́ й поіць і корміць. Людзі шурхнулі на ўсе́ бакі і прыгнуліся. Карпавіча й Васіля адпу-сьцілі дамоў. Бесьперастанку трашчэлі і трэскалі ку-ляме̂ты і стрэльбы. На могільніку ляжаць старыя й маладыя, дзяды й дзе́ці, мужчыны й жонкі.

**30. Гук ф** *чужы, небеларускі; е̂н ужываецца толькі ў словах пазычаных з чужых моваў*. Прыкл.: ґеоґрафія.

*Калі чужое слова ўжываецца ў беларускай мове даўно, дык* **ф** *замяніўся гукам* **х**, **п**, *або* **хв**. Прыкл.: хунт, Піліп, хварба.

Практыкаваньне. Перапішэце. Адзін хваб-рыкант маў шмат хвабрык. Хвабрычныя работнікі забаставалі. У шахве ляжалі кнігі. Хвалі перакулілі човен. Хвадзе́й купіў пяць хунтаў цукру. Хама з



Хве́дарам пайшоў на торг. Антоля купіла сіняй хварбы хварбаваць ніткі. Дзяўчынка пашыла сабе́ бе́ленькі хвартушок. Хвядося вучыцца чытаць. Дзяў-чаты ле́дзь верацёнамі не запаролі Апанаса. Піліп нясе́ трасянку жывёле. Пагале́лыя прасілі ахвяраваць на іхную галіту. Даваць на грамадзкія справы—гэта не ахвяра, а павіннасьць. Яхім насе́к дроў. Хода пайшла з бацькам у ле́с. Піліповічанка добрая сяб-роўка. Хілімон прадаў валы. У Івенцы робяць кахлі. Пранук пайшоў у хвальварак.

**31. Гук ґ** *таксама небеларускі і ўжываецца ў сло-вах пазычаных з чужых моваў* (ґалёшы).

Ё *толькі не́калькі беларускіх слоў з гукам* ґ. Словы гэтыя ў ніжэйнадрукаваных казаньнях.

Практыкаваньне. Перапішэце і падчыркне́це словы з гукам ґ. Ня бразґайце дзьвярыма. Ня трэба няма ве́дама што блявузґаць. Дай мне́ розґу. Бя-роза надта разґатая. Зґрабная з яе́ будзе дзе́ўка. Ґа, ґа, ґа — крычаць гусі. Матуля зварыла сьвіныя мазґі.

---

**32. Пяць вонкавых чуцьцёў**. Чалаве́к мае пяць вон-кавых чуцьцёў: *зрок, слух, нюх, смак, ошчуп*. Пры помачы гэтых чуцьцёў людзі пазнаюць навокал сябе́ рэчы і асобы; гэтак, прыкл.: у школе мы бачым лаўкі, сталы, дошкі, людзе́й; чуем голас, гутарку; пры по-мачы ошчупу пазнаём цяпло, цьвёрдасьць; нюхам — пах; смакам — саладзіню, гарчыню і г. п. Радасьць, гора, пільнасьць і інш. мы пазнаём ня нашымі чуць-цямі, а розумам. *Усё, што мы пазнаём пяцьма вонка-вымі чуцьцямі і розумам, заве́цца прадме́там.* Адны прадме́ты могуць варушыцца па сваёй волі, прыкл.: чалаве́к, птушка, а другія ня могуць — стол, нож і г. п. *Тыя прадме́ты, што могуць варушыцца па сваёй волі, завуцца жывымі, а ўсе́ іншыя няжывымі.*

**33. Казаньне.** *Думка, выказаная словамі, заве́цца казаньнем. На пісьме́ асобнае казаньне трэба пачынаць*

*з вялікай літары, і ўканцы казаньня ставіць пункт.*
Прыкл.: Конь цягне калёсы. Карова скубе траву.

Практыкаваньне. Перапішэце і пастаўце, дзе трэба, пункты і вялікія літары. Сьнеданьне гатова сена высушана ткальля ітчэ кросны я навучыўся пісаць сьнег белы хлапец пільны у коміне вые вецер мак цьвіце морква салодкая яблыкі насьпелі асыпалася лісьцё з дрэў насталі кароткія дні у школе шмат дзяцей Міхалька схаваўся за печ дзяцюк пасе каня пастухі пяклі бульбу жоравы паляцелі ў вырай нянька калыша дзіця рыбнікі лавілі рыбу на ганку затупалі дзеці была сьцюдзёная зіма матка залапіла апраніху воўк сабакі не баіцца вучанік купіў тры пяры касцы касілі сенажаць сын прыслаў ліст бацьком.

*Казаньне дзеліцца на часьці, або склады. Галоўныя склады казаньня, гэта дзейнік і казьнік.*

34. *Тое, аб чым кажацца ў казаньні, завецца дзейнікам. Дзейнік паказуе асобу або рэч, якая нешта дзеіць. Дзейнік адказуе на пытаньні хто-што?*

Прыкл.: *Пастух* пасе. *Палена* ляжыць.

Практыкаваньне. Сьпішэце, падчыркнеце дзейнікі і пастаўце над імі пытаньні. Жыта зьвезена. Птушкі пяюць. Сонца зайшло. Зоркі зіхацяць. Бліснула маланка. Сабака ўкусіў хлопчыка. Земляроб урабляе зямлю. Півонія цьвіце. Дом стаіць на ўзгорку. Вінцуль пагнаў каровы ў поле. Гаспадыня скварыла скваркі. Зямелька нас корміць. Твая істужка цьмянная. Звыш лобу вочы ня ходзяць. Здалеку бачыць твае вока. Зраньня быў дожджык. Бог сёлета зарадзіў пшаніцу. Сяньня ў нас капуста з затаўкай. Пераз сілу і конь не пацягне. Новае сіта на калку вісіць. Па рацэ плылі крыгі лёду. Мы вучымся пісаць.

35. *Казьнік паказуе, што ў казаньні кажацца аб дзейніку, або што дзейнік дзеіць ці што з ім дзеіцца. Казьнік адказуе на пытаньні: што робіць? што такое? якi* або *якоў?*



Прыкл.: Дзіця *гуляе.* Хвоя *дрэва.* Трава *зялёная.*

Практыкаваньне. Перапішэце і падчыркнеце казьнікі. Жнеі пяюць. Пайшоў сьнег. Хата прыбрана. Верашчака яда. Капуста йстрава. На гарэ паставілі вятрак. Навеяла гурбы сьнегу. Краскі зацьвілі. Травы красуюць. Месяц ясны. Дарога добрая. Беларусь наша бацькаўшчына. Красавік веснавы месяц. Іголка тонкая. Зьдзек над хлебам грэх. Дождж заскочыў нас у дарозе. На папары трава тлустая. Мяса яда сытная і трывалкая. Боты вобуй. Не адбівайся ад свайго краю. Коні ўжо даўно запрэжаны. Зямец ладзіць пчолы. Кажух і сярмяга мужыцкая павага.

36. *Даданыя склады. Апрача галоўных складоў, дзейніка і казьніка, ё яшчэ іншыя склады. Усе іншыя склады казаньня завуцца даданымі.*

Прыкл.: Яснае сонейка высака паднялося.

Практыкаваньне. Сьпішэце і падчыркнеце даданыя склады. Высокая печ прытулілася да сьцяны. Адам адчыніў дзьверы. Пасярэдзіне школы стаяў стол вучыцеля. Пятрук лавіў жукі. Здалеку чутны былі крыкі жораваў. Зубры вядуцца ў Белавескай пушчы. Міхась абхінуў жорава поламі ірванае сьвіткі. Сена злажылі ў копы. Усякі цыган сваю кабылу хваліць. Гэты хлеб з новага ўмалоту. Гаспадар нажаў сорак коп аўсу. У нашым возеры вядзецца малая і вялікая рыба. Чужнікі шмат павысякалі нашага харошага лесу. Сядзела маці над калыскай свайго хворага дзіцятка.

37. **Азначэньне.** *Той дадангы склад казаньня, які адказуе на пытаньні* — **які? чый? каторы? колькі?** — *завецца азначэньнем.*

Прыкл.: *Яснае* (якое?) сонейка ўзышло. Гэта *наш* (чый?) конь. Мы *шосты* (каторы?) дзень працуем. Вучанік мае *тры* (колькі?) кнігі.

Практыкаваньне. Сьпішэце, падчыркнеце азначэньні і пастаўце над імі пытаньні. Звонкія струны зазьвінелі. Насталі кароткія туманныя дні. Піліпка

быў малéнькі. Пайшоў буйны дождж. Пяі сваé пéсьні. Як маюцца тваé бацькі? У іх дзéвяць авéц. Дзяцюк заплаціў за боты дзевяцьдзесят рублёў. У мéсяцы трыццаць або трыццаць адзін дзéнь. На руцэ пяць пальцаў. Мы другі год вучымся. У нашай воласьці адчынілі дванаццатую беларускую школу. Смачныя сьпéлыя яблыкі. Родная мова — найдаражэйшы наш скарб. Яны ўжо пяты год выпісуюць дзьвé сваé беларускія газэты. Нашчыпайце мнé чарвоненькіх яблыкаў. Сéм дзён малаціла. Пастух скруціў адну дудку.

**38. Дапаўнéньне.** *Той дадзены склад, што адказуе на пытаньні* — **каго-чаго (кага-чага)? каму - чаму? каго (кага) - што? кім-чым? аб кім-аб чым?** — *завéцца дапаўнéньнем.*

Практыкаваньне. Падчыркнéце дапаўнéньні і пастаўце над імі пытаньні. Гартай рэжа зямлю нарогамі. Зялéніва пакрывае поле. Асушылі вятры зямéльку. Стол засланы настольнікам. Конь накрыты гунькаю. Засьцялі ложак пасьцілкаю. Камéнь сэрцам ня будзе, сэрца-ж камянём быць можа. Лучыў пальцам у нéба. Воўк схапіў авéчку. Я гэтага ня вéдаю. Падай дзядзьку рыдзьнік. Выдзьмухай агню ў ямцы. Нарві мнé сініх красачак. У сьнéжні бывае шмат сьнéгу. Бабуля сказала казку аб ваўку. Госьці прывéзьлі дзяцём гасьцінца. Гутарка была аб Крывічох. На снапé ляжыць сéрп. Хто парася ўкраў, таму ў вушох пішчыць.

**39. Акалічнасьці.** *Тыя дадзеныя склады, што адказуюць на пытаньні* — **дзé? куды? адкуль? калі? як? чаму? на што?** — *завуцца акалічнасьцямі.*

Практыкаваньне. Падчыркнéце акалічнасьці і пастаўце над імі пытаньні. Воўк да лéсу цягне. Трава блішчыць на сонцы. Буслы даўно пазьлятаді з гнёздаў. Увосень багат і верабéй. У полі работа скончана. Арол лётае высака. Ярка на камінку смольны корч палае. Заўтра пачынаецца вучэньне.



Дзéці вучацца ў школе. Маладыя гады борзда мінаюць. Увайдзі ў хату. У жніўні жнуць жыта. Сéна косяць улéтку. Узімку малоцяць збожжа. У Рызе шмат хвабрык. Не выхадзі з хаты. Людзі йшлі з пожні. З мéста прыéхалі купцы. Купéц пайшоў нацянькі. Гарох адсыпаны на насéньне. Там добра, дзé нас няма. З агню ды ў прысак. Дзеля дабра бацькаўшчыны трэба нéпрыяцелям сваім дараваць. Гукні малацьбітоў на сьнéданьне. Ён за работай ня будзе мéць часу й памéрці. Трэба даваць на грамадзкія справы. Матуля жыла ў мéсьце дзеля дзяцéй. Насéньне прыгатавана на сяўбу. Працавітыя пчолкі працуюць зраньня да вéчара. Ад кашлю дзіця засіпéла.

**40.** *Калі слова адказуе на пытаньні* **хто-што?** *і да яго можна дадаць слова* **мая,** *дык пішацца на канцы* **я**, *а ня* **е** (доля, вішня).

*Калі слова* (*без націску на канцы*) *адказуе на пытаньні* **хто-што?** *і да яго можна дадаць* **маё**, *дык пішацца на канцы* **е**, *а ня* **я** (*поле, сьнéданьне*). *Толькі словы*—плямя, вымя, цéмя, імя, сéмя, бéрамя, *маюць на канцы* **я**.

Практыкаваньне. Перапішэце і замéста крыжыка пастаўце *я* або *е*. Не за дзéнь Вільн× станавілася. Будуць шчасьц× мéці дзéткі. Ля дарогі стаяла кузьн×. Сяньня харошанькая нядзéл×. Вясéльл× пачалося ў сыботу. Чарэшн× ўжо зацьвіла. Спачатку было пісаньн×, а патым чытаньн×. Зараз пачнéцца рысаваньн×. Малатарн× стаіць на таку. Матул× даглядае дзяцéй. Ці не дадзéла вам сéдн×? Хусьц× сохне. Хоць крышку бліснула нам вол×. За гародам пастаўлена лазьн×. Снуйн× абапéрта аб сьцяну. На панадворку ё студн×. У нашым краі ё вялікае багацьц×. Узьлéсьс× было блізка. Рагул× пайшла ў шкоду. Сячкарн× стоіць 30 рублёў. У сталяра ё сталярн×. Няшчасьц× здарылася з ім. На лаве ляжала пачасьс×. Лéжн× нічога ня дасьць. Бадзяньн× і агіляньн× да дабра не давядуць. У сьвéрне была важн×. Пол× засéена аўсом. Вучэньн× робіць людзéй сьвéт-

лымі і разумнымі. Дзéці любяць смажэньн×. Вучанік адказаў на пытаньн×.

**41.** *Калі слова адказуе на пытаньні* — **якая? каторая? чыя?** *дык на канцы пішацца* **ая** *або* **яя** (нов*ая* хата, сін*яя* папéра).

*Калі слова адказуе на пытаньні* — **якое? каторае? чыё?** *дык на канцы пішацца* **ае** *або* **яе** (пад націскам—**ое, ёе**). Прыкл.: Нов*ае* вакно. Сін*яе* шкло. Мал*ое* дзіця.

Практыкаваньне. Перапішэце і замéста крыжыка пастаўце **я** або **е**. Стала вяліка× дарагоўля. Поўная латушка малозіва. Сьвéтла× сонейка зьзяе. Сёлетня× лéцейка гарача×. Была цяжка×, сьцюдзёна× зіма. Наша× бéла× вакно, а ваша× жоўта×. Друга× зіманька прыходзіць. Гэта яшчэ лéташня× збожжа. У рацэ вада цёпла×. Та× зязюля, але ня так кукуе. Стара× бабуля баіцца сьцюжы. Цікава× цяля. Беларусь, мая зямля родна×! Пайшла дванацата× гадзіна. Стаяла невялічка× чародка дзяцéй. Краска хароша×, але не пахнюча×. Цэла× заўлоньне набрала цыбулі. Нéнасыць нéйка× на вас напала. Жывёла ваша× няўломка×. Сьпéла× ігруша звалілася. Яна перша× мая нéпрыяцелька. Вісіць нова× рэшата. Вісéла іспадня× і вéрхня× вопратка. У Алéся добра×, шчыра× сэрца. Задня× кола звалілася. Дзéняшня× работа асталася. Сыньня× ласка. Гэта друго× вакно.

**42.** *Калі слова адказуе на пытаньні* — **якія? каторыя?** *дык на канцы пішацца* **ія** *або* **ыя** (сінія, чорныя, такія, шостыя).

Практыкаваньне. Перапішэце і падчыркнéце канчаткі *ія, ыя* і над словамі з гэтымі канчаткамі пастаўце пытаньні. Добрыя дзéці. Страшныя сны сьніліся яму. Вырві мнé тры сьпéлыя гуркі. У мéсьце высокія дамы. Вашыя яблыкі сакавыя і салодкія. Якія харошыя, чырвоныя красачкі! Не патрэбны нам бліскучыя ґузікі. Ішлі вялікія дажджы. Лявоніха і мяцéліца беларускія скокі. Цёмныя людзі баяцца вéдзьмы. Разьнясі гэтыя лісты. Расьцягні гэныя шнуры. Поруч



раськіданы родныя вёскі. Шыбка плылі лядовыя крыгі. У багатага гаспадара поўныя аруды рознага збожжа. Тацянка тонкія абрусы ткала. Патрэбны беларускія кнігарні. У Вільні вузкія вуліцы, а ў Мéнску шырокія. Станьце ў сьцяг (рад) і разьлічэцеся па сéм! Сёмыя напéрад, пéршыя назад, другія направа, чацьвéртыя налéва, марш!

---

# Другая часьць.

## а) Пісаньне адказаў на асобныя пытаньні.

**1.** Хто кудакча? Хто сакоча? Хто курняўкае? Хто рохкае? Хто квічыць? Хто рыкае? Хто равé? Хто кукуе? Хто брэша? Хто вые? Хто брукуе? Хто іржэ? Хто бляé? Хто ґаґае? Хто гудзіць?

**2.** Хто вучыць дзяцéй? Хто косіць траву? Хто шые боты? Хто шые вопратку? Хто пілуе дровы? Хто ставіць хаты? Хто робіць сталы? Хто куé цьвякі? Хто ловіць рыбу? Хто арэ зямлю? Хто скародзіць ральлю? Хто барануе ральлю? Хто мéрае зямлю? Хто шкліць? Хто мые хусьце? Хто мнé лён? Хто ірвé (бярэ) лён? Хто жнé? Хто муруе? Хто робіць пéчы? Хто вудзіць рыбу? Хто грабіць сéна? Хто носіць цяжары? Хто éдзе конна? Хто ўрабляе зямлю? Хто поліць грады?

**3.** Што гэта хата? Што гэта хлéб? Што гэта крупнік (крупéня)? Што гэта калёсы? Што гэта маламок? Што гэта лялька? Што гэта гаршчок? Што гэта боты? Што гэта сарочка (кашуля)? Што гэта сьвітка? Што гэта дуб? Што гэта мéдзь? Што гэта ластаўка? Што гэта конь? Што гэта жук?

**4.** Што робіць касéц (касьбіт)? Што робіць шавéц? Што робіць вучыцель? Што робіць кравéц? Што робіць пільнік? Што робіць цéсьля? Што робіць сталяр? Што робіць каваль? Што робіць рыбнік?

Што робіць араты (артай, аральбіт)? Што робіць скарадзьбіт? Што робіць барнавалок? Што робіць каморнік? Што робіць шклéньнік (шкляр)? Што робіць мыцьцёха? Што робіць мячка? Што робіць жняя? Што робіць муляр? Што робіць пячкур?

5. Што робіць вудаль? Што робіць малацьбіт? Што робіць сяўбіт (сявéц)? Што робіць папрадуха? Што робіць ткальля? Што робіць майстра? Што робіць рымар? Што робіць чытар (чытака)? Што робіць ганчар? Што робіць судзьдзя? Што робіць доктар? Што робіць грабéльнік? Што робіць нашэльнік? Што ўрабляюць землякробы? Што робіць паляя?

6. Каго вучыць вучыцель? Што косіць касьбіт? Што шые шавéц? Што арэ араты? Каго слухаюць вучанікі? Што éсьць карова? Каго павінны паважаць дзéці? Каго любяць бацькі? Што ставяць цéсьлі? Што грабіць грабéльнік? Што носіць нашэльнік?

7. Чым косяць траву? Чым вудзяць рыбу? Чым скародзяць ральлю? Чым шыюць вопратку? Чым пілуюць дровы? Чым стрыгуць валасы? Чым чысьцяць вопратку? Чым бéляць хату? Чым глядзяць людзі? Чым шыюць вобуй? Чым куé каваль?

8. Што пякуць з цéста? Што ітчэ ткальля? Што вараць з круп? Што цэдзяць з дайніцы? З чаго шыюць боты? З чаго робяць цьвякі? З чаго робяць цэглы? З чаго ставяць хаты? З чаго круцяць дудкі? З чаго віюць вяроўкі? З чаго ціснуць сыры? З чаго б'юць масла? З чаго прадуць ніткі? З чаго смажаць смажэньне?

9. Да чаго прыбіваюць абсац? Каму патрэбна шыла? Каму патрэбна саха? Каму патрэбная сякéра? Да чаго прыбіваюць падкову? Каму патрэбна голка? Да чаго падбіваюць падноскі?

10. На чым éзьдзяць узімку? Дзé жывé рыба? На чым растуць яблыкі? У чым вараць істраву? Дзé растуць грыбы? На чым пішуць пяром? Дзé жывуць зьвяры? На чым éзьдзяць улéтку? На чым éзьдзяць



па вадзé? У чым мыцьцёха мые хусьце? На чым ткальля ітчэ ў ткальні? На чым éдзе коньнік?

11. Колькі дзён у тыдні? Колькі ў годзе мéсяцаў? Колькі ў пудзе хунтаў? Колькі пальцаў на руцэ? Колькі крылаў у пéўня? Колькі лап у ката? Колькі ў рублі капéек? Колькі кутоў у хаце?

12. Чаго дзéці ходзяць у лéс? Чаму тае лёд? Калі людзі сьпяць? Куды дзéці ходзяць вучыцца? Калі вучанікі зьбіраюцца ў школу? Калі пастух выганяе жывёлу? Дзé землякробы сéюць збожжа? Адкуль ідзé дождж? Дзé садзяць гародніну?

13. Які дом ставяць цéсьлі? Які колер мае малако? Які пост перад Калядамі? Які дом ставяць муляры? Які колер мае сажа? Які колер мае трава? Які пост перад Вялікаднем? Які колер мае папéра?

14. Якое судзьдзе робіцца з гліны? Якая каса лёгка рэжа траву? Якую монэту б'юць з мéдзі? Якую кашу вараць з грэцкіх круп? Які тыдзень бывае перад Вялікаднем? Якое судзьдзе робяць з бляхі? Якую вопратку шыюць з сукна?

15. Якога колеру сажа? Якога колеру кроў? Якога колеру трава? Якога колеру смала? Якога колеру сьнéг? Якога колеру золата? Які млын ставяць на рацэ? Якое судзьдзё робяць з шкла?

---

### б) АПІСАНЬНЕ ПРАДМÉТАЎ І ПОР ГОДУ ПА ЧАСТКАВЫХ ПЫТАНЬНЯХ.

16. **Стол.** Што гэта стол? З чаго робяць сталы? Хто іх робіць? Што стол мае ўнізé. Што ё на ножках? Што робіцца пад вéрхняй дошчкаю? На што патрэбен прыстолак? Чым малююць сталы? Што робяць за сталамі? Чым засьцілаюць стол?

17. **Дом.** Што гэта дом? Якія бываюць дамы? Хто і з чаго робіць камéнныя дамы? Хто і з чаго ставіць драўляныя дамы? Што робяць наўпéрад, ставячы дом? Што ставяць на падмуроўцы? На што ў сьцéнах пакідаюць дзіры? Чым крыюць дом? Што

робяць у сярэдзіне дома? Калі гаспадары робяць улазіны (уходзіны)?

**18. Зіма**. Якая ў нас самая сьцюдзёная пара году? Якавы ўзімку дні і якавы ночы? Як узімку грэе сонца? Што ўзімку робіцца з вадою ў рэках і ручаёх? Дзé ўзімку сьцюдзянéйшая вада, у рацэ ці ў крыніцы? Чым заслана зямля? Калі бываюць найвялікшыя маразы? Чым узімку займаюцца гаспадары? Якія сьвяты бываюць узімку?

**19. Вясна.** Якая пара году настаé пасьля зімы? Што ўвясну робіцца з сьнéгам і з лёдам? Што ў гэтым часе робіцца на рэках? Чым увясну пакрываюцца палі і сенажаці (пожні)? Што робіцца з дрэвамі і кустамі? Якія птушкі і адкуль прылятаюць да нас увясну? Што яны пачынаюць робіць? Што гаспадары ўвясну робяць у гародах? Што яны робяць на палёх? Якое вялікае сьвята бывае ўвясну? Калі было абвéшчаньне незалéжнасьці Беларусі?

**20. Лéта.** Што йдзé за вясною? Якавы лéтнія дні? Якавы ночы? Як улéтку грэе сонца? Што ўлéтку зьяўляецца на дрэвах і кустох? Чаго дзéці бéгаюць на раку? Якая работа бывае ўлéтку на пожнях (сенажацях)? Якая работа пачынаецца пасьля касьбы?

**21. Восень.** Якая пара году настаé пасьля лéта? Якія восенскія вятры? Якая пагода? Куды ўвосень лятуць ад нас птушкі? Што людзі ўвосень абіраюць з дрэў? Што яны робяць у гародах? Якое збожжа земляробы ўвосень сéюць на палёх?